# НАВІНКІ

Серада, 10 сакавіка 1999 №4(12) Кошт свабодны


стар. 5

## Беразоўскі аказаўся шмат-дзетнай маці!

# Дазьняк у Мэксіканскім Заліве

## піша красавіцкія факсы й будуе пляны вяртаньня на Радзіму.



Бруд, сэкс, шантаж, кампраматы... Арсэнал такога кшталту сродкаў без асобых маральных комплексаў выкарыстоўваецца кандыдатамі ў прэзыдэнты на старце бязьлітаснай барацьбы за палітычны Алімп. Першым сякеру татальнай вайны выкапаў Міхаіл Чыфір, якога не на жарт дасталі непамерныя палітычныя амбіцыі галоўнага канкурэнта – Зянона Дазьняка. Інфармацыя з выбаркаму не магла не ўвагнаць былога прэм'ер-міністра ў смутак – Чыфір, як сапраўдны патрыёт Бацькаўшчыны, разам са сваімі расейскімі сябрамі фінансуе ўсю перадвыбарчую кампанію, а перамогу сьвяткаваць будзе нацыяналістычны маргінал, якога нават былыя партнёры па БНФ сьпісалі ў відэаархіў.

Глебу для хваляваньняў чыфірыстаў угноілі апошнія зьвесткі сацыялягічных дасьледаваньняў. Гэтак, згодна апытаньням грамадзкай думкі, праведзеных у Глыбоцкім раёне, зь сямі чалавек, якія нешта ведалі пра выбары 16 мая, тры чалавекі зьбіраліся аддаць свае галасы за Дазьняка, два – за Чыфіра, астанія – за Лужкова і Ельцына.

Зразумела, што Чыфір, Мафусаіл беларускай палітыкі, вырашыў у такой сытуацыі не абмяжоўваць сябе ў сродках барацьбы. І вось, выпісаныя з *Московского Комсомольца* аматары пакапацца ў бруднай бялізьне закаталі рукавы, і неўзабаве ўся беларуская грамадзкасьць здрыганулася ад неверагодных выкрыцьцяў. Спадручныя Чыфіра прыўзьнялі заслону над самымі таямнічымі старонкамі жыцьця патрыярха беларускага вызвольнага руху.

30 лютага часопіс *Пасечнік Беларусі* выйшаў з сэнсацыйнымі заявамі 677-ым кеглем: «Дазьняк, Прамэтэй беларускага нацыяналізму, мае за сьпінай колькі пікантных афэраў, на фоне якіх службовыя раманы гарэзы Клінтана здаюцца нявіннымі дзіцячымі гульнямі ў бутэлечку. У 1952-ім годзе малады Зеня Дазьняк быў актывістам школьнага Савету акцябратаў, лепш за ўсіх гуляў на горне гімн БССР і нават напісаў сачыненьне «Ленін думае пра Беларусь», якое заняла другое месца па рэспубліцы (першы прыз – паездку ў «Артэк» – атрымаў Юра Хадыка).

Ня кінуў Зянон сваіх камуняцкіх прыколаў і калі быў патлатым тынэйджэрам. Калі ўсе ягоныя сябры па двары тарчалі ад Зыкінай і Бернэса, міліцыянэры рэгулярна затрымлівалі будучага адраджэнца за спробы зьбегчы на цаліну або да Фідэля на востраў Свабоды. Пазьней, ужо ў студэнцкія гады, малады археоляг Зянон Станіслававіч падчас раскопак старажытнага Менску раскапаў домік-музэй РСДРП.

Як жа сталася, што з загартаванага марксіста-ленінца Зянон Дазьняк ператварыўся ў подлага буржуазнага нацыяналіста і антыкамуніста? Вочы на «праўду» З.С. Дазьняку адкрыў Лі Харві Освальд, які ў 60-ых тусаваўся ў Менску. Ён і пазнаёміў маладога археоляга з бубальгумам, кока-колай і амэрыканскім ладам жыцьця...»

У адказ на брудныя выпады чыфірыстаў газэта *Народны Понт* у матэрыяле «Каму на Белай Русі добра жылося» памяшчае крытыку правамочнасьці міту аб залатой эпосе праўленьня Чыфіра, што атрымала ў прапагандысцкіх агітках ідылічную назву «Чыфіраўскі застой». Артыкул даводзіць, што Чыфіраўская belle

стар. 2



Падчас арышту раскольніка Ганчара органы правапарадку троху падрапалі фарбу на правым крыле ягонай машыны

## Крэдыты для Расеі



Прэзыдэнт БНР Івонка Сурвіла ў інтэрвію Інтэрфаксу заявіў, што БНР выдзяляе неабмежаваны фінансавы крэдыт для Расейскай Фэдэрацыі на правядзеньне рэфэрэндуму наконт аб'яднаньня фінансавых сыстэмаў Расеі і Рэспублікі Беларусь.

***Трыюмф нацыяналізму! 4 сакавіка прэзыдэнцкая каманда вэтэранаў удзелала з сухім лікам зорак хакею СССР.***

**БЕЛАРУСЬ – СССР 4:0**




Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Тыраж 5200 экз. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 42, 220085 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by

*Ганчароўскі Цэнтарвыбаркам у поўным складзе арыштаваны ў Нью-Ёрку.*

# Аднойчы ў Амэрыцы...



Беспрэцэдэнтная няпруха перасьледуе Камісію па выбарах прэзыдэнта. Не пасьпелі сябры альтэрнатыўнага Цэнтарвыбаркаму ўволю папантавацца на дысыдэнцкай тусоўцы апошняй ходкай за парушэньне закону аб парадку сходак, як злодзей-лёс завярцеў іх у новым тарнада прыгодаў і авантураў.

Усё пачалося з артыкулу «Закону аб выбарах Прэзыдэнта», які дакладна й катэгарычна патрабуе, каб рэгістрацыя кандыдата ў Прэзыдэнты адбывалася ў ягонай асабістай прысутнасьці. Лягічна ўзьнікла пытаньне - што рабіць з Пазьняком. Лідэр БНФ, якому прысьпічыла стаць кандыдатам у Прэзыдэнты, жыве лімітой у Нью-Ёрку. Выцягнуць Зянона рэгістравацца ў Менск немагчыма. Калі Магамэт ня йдзе да гары, гара йдзе да Магамэта. Не даваць жа падставаў для інсынуацыяў рэнэгатаў Зімоўскага, які б стопрацэнтова падкалоў законьнікаў з ВС-13 тым, што яны парушаюць свае ж хвалёныя законы.Такім чынам, ганчароўцам прыйшлося апэратыўна адказваць на ідыёцкія пытаньні анкеты ЗША кшталту «Ці знаходзіліся Вашыя продкі на часова акупаваных ангельцамі тэрыторыях 1492-1772 г.г.?» і «Які Ваш досьвед працы ў няўрадавых арганізацыях?». Нарэшце, ўсе фармальнасьці мінуліся, і зборная заваліла ў аэрапорт Кенэдзі, дзе іх урачыста – з кветкамі і марозівам – сустракаў асабіста З.С.Пазьняк. Турыстаў прытуліла піцэрыя «Coloseo» ў гарлемскім прадмесьці, вядомая на раёне як прытон злачынцаў і какаіншчыкаў. Тут, за справай рэгістрацыі не заўважылася, як паступова дайшлі да кандыцыі. Пачаўся звычайны банкет: безьліч разоў заказвалі «Мурку» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», наехалі на мясцовую чарнаскурую братву, палезьлі мацаць стрыптызёрак...Але разьвязка была наперадзе. Калі прыйшоў час аплаціць рахункі, аказалася, што за душой у нашых землякоў ёсьць толькі карткі на цукар, якія, нажаль, крэдытнымі не зьяўляюцца. Ганчароўцы, ня будзь дурнямі, хацелі выставіць скрайнім Пазьняка, але Зянон, вучаны такімі прыколамі яшчэ са старога Вярхоўнага Савету, даўно прафэсійна зьнік. Апошні, хто яго бачыў, быў Шарэцкі, зь якім Зянон выходзіў апраўіцца на двор. З воклічам «Сеня, я чакаю цябе за столікам», лідэр БНФ растаў у цемры Сэнтрал-парку і больш не зьяўляўся. Зразуме-ла, дырэкцыя піцэрыі не жадала слухаць галімых адмазак аб цяжкім стане з правамі чалавека ў нейкай там Беларусі. Хутка пад'ехалі копы, якія й павінцілі ўсю беларускую брыгаду. У адказ суайчыньнікі Дастаеўскага і Міцкевіча пачалі рваць у сябе на грудзях гальштукі. У справу пайшлі зэдлікі, бутэлькі і нават пячатка Цэнтарвыбаркаму, якую дэпутат ВС-13 П.Знавец прыстасаваў у якасьці кастэту. Ня гледзячы на ўсе выбрыкі наваяўленай беларускай мафіі, як і мусіць быць у ЗША, перамог закон і парадак. Арыштавалі ўсіх за выключэньнем Навумчыка, які схаваўся ў кабінцы туалету. У «акварыюме» мясцовага пастарунку на нашых герояў склалі пратаколы за несанкцыянаваны мафіёзны сходняк і прысудзілі штрафы. Толькі за разьбітае люстэрка заплацілі 586 даляраў. Але адкуль у наваяўленых беларускіх такія грошы? Безумоўна на дапамогу прыйшлі заходнія спэцслужбы. На наступны дзень ганчароўская дэлегацыя п'яніц і дэбашыраў у суд не зьявілася. Зранку самалёт з народнымі выбраньнікамі прыбыў у аэрапорт Менск-2. ●

## Эдыт.

### Трыюмф

**прынцыпаў дэмакратычнай Канстытуцыі'96**

23 лютага 1999 году ў 14 гадзінаў 36 хвілінаў паводле Менскага часу зьдзейсьнілася тое, пра што стагодзьдзямі марылі лепшыя сыны Беларусі Янка Купала, Якуб Колас і Ільля Сін: Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь без суда і сьледзтва **зарэгістраваная газэта «Навінкі»**. У цёплай і сьвяточнай атмасфэры ў прысутнасьці высокапастаўленых асобаў Дзяржкамдруку заснавальнікам газэты было ўручанае Пасьведчаньне аб дзяржаўнай рэгістрацыі масава-палітычнай газэты «Навінкі» за №1272.

Згаданы факт зьяўляецца яскравай дэманстрацыяй дэмакратычнага духу Канстытуцыі 1996 году, наглядным і рашучым адпорам агрэсіўным задумкам рэакцыйных сілаў. Гэта яны, зацікаўленыя ў ачарненьні й дыскрэдытацыі існуючага канстытуцыйнага парадку, намагаліся шляхам сабатажу, шантажу і адкрытага правакатарства сарваць працэс рэгістрацыі нашай газэты. Гэта ім было на руку напярэдадні выбараў 16 мая 1999г. стварыць у грамадзтве атмасфэру няўпэўненасьці ў выніках выбараў. Зразумела, у такіх умовах чыгірыстам не складала цяжкасьцяў завочна выйсьці ў другі тур. Аднак здаровыя сілы на чале з Падгайным своечасова праявілі пільнасьць і расстроілі козьні ўнутраных ворагаў. «Навінкі» легалізаваныя!

## Філіпок

Апошнім часам на цэнтральных вуліцах Менску часта можна сустрэць маладога чалавека ў прыкметнай клятчастай куртцы, белым шаліку і кніжкамі пад пахай. Штодня ён курсуе па кварталах між вакзалам і КДБ зь нейкай яму аднаму вядомай мэтай. Але Павал Севярынец (а гэта менавіта ён) заклапочаны ня справамі апазыцыі й нават не маладзёвым супрацівам. Усё тлумачыцца значна прасьцей і трагічней: лідэр «Маладога Фронту» зноў узяўся за вучобу. Праблема атрыманьня вышэйшай адукацыі турбавала Пашу даўно. Яшчэ калі толькі ён, зялёны абітурыент-віцяблянін, зьявіўся на БНФ, паплечнікі па Адраджэньні заўважылі некаторыя дзіўныя для змагара апазыцыі адхіленьні. Замест таго, каб нармалёва «засядаць», выпіваць ды гарланіць народныя песьні, Севярынец час ад часу імкнуўся пасядзець на лекцыях.

Зь цягам часу вучоба ператварылася ў нездаровую звычку, сапраўдную праблему для арганізацыі.

Калі ў 97-м годзе Павал здолеў перамагчы сябе і парваць з вучобай, усе ўздыхнулі з палёгкай. Здавалася б, хлопец вярнуўся ў рэчышча нармальнага апазыцыйнага жыцьця, пачаў актыўна займацца справамі Беларушчыны, змагацца за нацыянальнае Адраджэньне і кансэрватыўную рэвалюцыю. Па троху выкладчыкі забыліся пра ціхага хлапца з галёркі, які падчас лекцыяў з нуды выразаў на партах «Малады Фронт мацней за Жонд» ці «БПСМ – петухі». Насупраць прозьвішча «Севярынец» староста групы на сэмэстар наперад звыкла выстаўляў «н» («няма»).

І вось літаральна нядаўна нехта з прафоргаў заўважыў ля дэканату нейкага хлопчыка, які ўважліва вывучаў расклад заняткаў. «Новенькі!» – паляцела чутка па патоку. Але адзін са студэнтаў, які славіўся добрай памяцьцю і здаваў усе залікі аўтаматам, прызнаў у навічку заядлага прагульшчыка Пашку Севярынца.

Цяпер замест таго, каб наведваць піўнухі ці бадзяцца па вуліцах, галёкаючы антыўрадавыя слоганы, Павал зноўку пагрузіўся ў вучобу.

Ледзьве прадраўшы зранку вочы, ён ужо цягнецца ва ўнівэрсытэт, і думкі ягоныя засяроджаныя толькі на адным – як адказаць на сэмінары па прыкладной геалёгіі ці скатаць канспэкт па геаграфіі Паўночна-Заходняй Аўстраліі. Падчас рэдкіх перапынкаў паміж парамі Севярынец выскоквае на вуліцу й кідаецца да ўсіх аднакашнікаў з адзінай просьбай: «Пазыч пяцёрку на ксэра, са сьцяпухі аддам...»

Цяжка назіраць, як губляе выбраныя жыцьцёвыя арыентыры зусім яшчэ малады чалавек. Але зь іншага боку, які заганны прыклад падаецца ўсёй астатняй нацыянальна сьвядомай моладзі? ●

# Кашмары на вуліцы Румянцава

Нядобрай славай карыстаецца апошнім часам пакойчык на Румянцава-8, што арэндуе Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны. Тутэйшыя жыхары намагаюцца далей абыходзіць нядобрае месца. Са словаў мясцовых бабулек і студэнтаў суседняга ін'язу па вечарах тут зьбіраецца кампанія чарнакніжнікаў, у вокнах мільгаюць падазроныя цені і чуюцца вантробныя галасы... Што ж адбываецца ў асяродзьдзі змагароў за родную мову? На гэтае і іншыя пытаньні дае адказ сантэхнік Казімір Міндаўгавіч Сідараў, які выпадкова стаў сьведкам эзатэрычнай оргіі. На дзяжурны выклік ён зайшоў у офіс ТБМ, каб наладзіць бачок унітазу, які зламалі сацыял-дэмакраты Трусава-Шушкевіча, і, запрацаваўшыся, выпадкова заснуў пад сталом.

***Згодна Дэкрэту Прэзыдэнта аб татальнай перарэгістрацыі грамадзка-палітычных арганізацыяў, для таго, каб выкарыстоўваць імя нейкай асобы ў назьве арганізацыі, патрэбна мець яе асабісты дазвол альбо дазвол яе прамых нашчадкаў.***

**Кар.**: Казімір Міндаўгавіч, якія трансцэндэнтныя працэсы з пункту гледжаньня вонкавага назіральніка адбываюцца ў гэтай таямнічай кватэры?

**К.М.**: Дрыхну, бл...ха, пад сталом, і тут, бл...ха, чую галасы: «Скарына, слаўны сын Полацку, прыходзь! Скарына, прыходзь!» Я, значыцца,таго, бл...ха, фуршэт нейкі для інтурыстаў і паінцерасавацца з-пад стала, чым там буржуі «джым-бімы», бл...ха, з тонікамі закусваюць, сукі! Гляджу, а на стале з закусі засталася толькі адна пустая талерка, і усе да яе, бл...ха, рукі цягнуць!

**Кар.**: Спадар Казімір, які быў склад удзельнікаў гэтага спірытычнага рандэву?

**К.М.**: Ё.., х.., б.., п... х... ж..!

**Кар.**: Што Вы гаворыце? Вось гэта да! А што было далей?

**К.М.**: Дык сьвятло, тут, бл...ха... Дым там пайшоў. Заходзіць мужык сьвяцяшчыйся ў шапцы. Вось! Я кажа, бл...ха, Карына, х...лі, маўляў, трэба!

**Кар.**: Прааналізуйце, калі ласка, рэакцыю прысутных на гэты палтэргейст.

**К.М.**: Га?.. А-а-а-а... Дык вось, гэнтыя, у акулярах, туляць яму нейкія накладныя: патрэбная, маўляў,



Вашая згода, каб, значыцца , наша кантора, я...сьці яе ў вэнцель, хвамілію Вашу насіла, бл...ха. А мужык гэты, каторы ў шапцы, на іх кажа гэтак, панавучнаму: «Ідзіце, вы, бл...ха, у дупу, задрала з вамі, мудакамі, лясы тачыць. Дзялы ў мяне.» І пайшоў праз сьцяну. І зьнік, каб мне паўлітры не відаць! Корышы мае на піўнусе гэтак на гэта казалі: «Ты, Міндаўгавіч, таго.., вобшчым, сматры там, бл...ха!» ●















**Запіс вайся ў грама дзяне БНР?..**

# Першыя ластаўкі

## Палітычныя рэпрэсіі ў БНР набіраюць абароты



*Першы вязень сумленьня ў буржуазнай БНР шукае прытулку ад перасьледу ў РБ. Хто наступны?*

Не пасьпеў новы ўрад БНР выканаць абяцаньні, дадзеныя выбаршчыкам, і далучыць да БНР Смаленск, Вільню і Беласток, як прыйшлося разьбірацца зь непрыемнасьцямі на сваёй жа тэрыторыі.

Днямі пазбаўлены грамадзянства БНР і высланы з краіны першы дысыдэнт, супрацоўнік замежнай прэсы, газэты *Беларуская Маладзёжная*, пісьменьнік, публіцыст і грамадзкі дзеяч Сяржук Пульша.

Выкрылі дысыдэнта проста: студэнт 4-га курсу журфаку імя братоў Луцкевічаў сп. Пульша атрымаў ганаровае разьмеркаваньне на практыку ў афіцыйную «салідную газэту» *Радавая Беларусь* і... раптам пісьмова адмовіўся(!) ад практыкі, выказаўшыся супраць гвалтоўнага разьмеркаваньня (і свайго ў прыватнасьці), матывуючы гэта тым, што «праца ў тэндэнцыйнай афіцыёзнай газэцёнцы супярэчыць маім маральным і палітычным поглядам і прынцыпам».

Спачатку гэта было ўспрынята як чарговы жарт: БНР ганарыцца сваімі дэмакратычнымі традыцыямі. Сяржант КДБ БНР сп. Мухін правёў тлумачальную гутарку з будучым журналістам, але вынікі гэтага былі адваротныя пажаданым: на наступны дзень Служба Бясьпекі Прэзыдэнта БНР перахапіла скаргі на ўціск паводле палітычных матываў, накіраваныя ў Хельсінскі Камітэт палітвязьняў БНР, «Amnisty International» ды іншыя варожыя арганізацыі. Аўтарам скаргаў быў, зразумела, Пульша.

Адразу ж па месцы жыхарства Пульшы быў зроблены ператрус, дзе сканфіскавалі замежную *Беларускую Маладзёжную*, чарнавікі артыкулаў, некалькі фальшывых пашпартоў грамадзяніна БССР, N.R.M. і самвыдатаўскі зборнік Пульшы *Адзін дзень Зянона Станіслававіча*, ледзь не надрукаваны аднойчы афіцыйным часопісам БНР *Пустацьвет* – жудасны паклёп на дзяржаўны строй БНР.

**Івонка Сурвіла: «Будзем страляць як шалёных псоў!..»**

Маладога дысыдэнта, вядома ж, затрымалі і хацелі было распачаць паказальны працэс па артыкулу Крымінальнага Кодэксу БНР за зьнявагу гонару і годнасьці Прэзыдэнта БНР, дзе дысыдэнту было б гарантавана 10 год бяз права перапіскі. Прынамсі, на адрас суду ўжо пачалі паступаць лісты працоўных калектываў БНР з патрабаваньнем «зьнішчыць шкодніка, абібока і шалёнага сабаку», але шэраг пратэстаў і пікетаў перад амбасадай БНР у Рэспубліцы Беларусь і іншых сумежных з БНР дзяржавах прымусілі кіраўніцтва БНР проста выслаць Пульшу з краіны, пазбавіўшы яго грамадзянства БНР. Пашпартны стол Савецкага РАУСу сталіцы БНР г.Менску-Беларускага сканфіскаваў у Пульшы пашпарт грамадзяніна БНР. «Нам не патрэбныя грамадзяне, якія парочаць дзяржаўны лад і асабіста Прэзыдэнта БНР Івонку Сурвілу», – патлумачылі ў РАУСе.

Ранішняй электрычкай па лініі мэтро «Пл. Калябарантаў – Маскоўская» Пульша быў высланы ў Рэспубліку Беларусь.

Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, па радыё «Голас Рэспублікі Беларусь» прагучала інтэрвію кіраўніка аднаго з буйных тэатраў БНР «Бум-Бам-Літ» Ільлі Сіна. Ён заявіў аб цкаваньні вольнай творчасьці й свабоды ў БНР, выказаў жаданьне застацца ў дэмакратычнай Рэспубліцы Беларусь назаўсёды і пры сьведках спаліў пашпарт БНР. Бегства з БНР пачалося...●

**Сяргей Пульша**

# Дазьняк у Мэксіканскім заліве, а Чыфір – у ...

Працяг са стар.1

Кароткі зьмест папярэдняй часткі. Дазьняк гоніць на Чыфіра, Чыфір гоніць на Дазьняка...




*Малюнак зь дзіцячага альбому Зянона Дазьняка 1952 год*

ероque мела далёка не пазытыўныя бакі, як гэта падаецца на першы погляд.

Гэтак, высьветлілася, што за ўвесь час росквіту наша зборная па біятлёну ня здолела прабіцца ў тройку прызёраў. Пра якую стабільнасьць можна казаць, калі пры Чыфіры ў красавіку 1996-га году экстрэмісты на чале з Дазьняком прама на вуліцах перакулялі грамадзкі транспарт?!

Гэтыя агульнавядомыя факты Чыфіроўскага мінулага мелі вялікі ўплыў у беларускім грамадзтве і пахісталі чашу шаляў на карысьць Дазьняка.

Вырашальным ударам па Чыфіру і К° мусіла стаць канчатковае й беспаваротнае вяртаньне Дазьняка на Радзіму. Як вядома, з гэтай мэтай быў зафрахтаваны плямбаваны самалёт «Сэсна». Нью-Ёрцкі затворнік праслухаў 5 лекцыяў Руста аб тым, як дакладна прызямляцца на цэнтральных плошчах усходнеэўрапейскіх гарадоў. І вось, калі ўсё было ўжо падрыхтавана, уключаючы красавіцкія тэзысы, пляны на вяртаньне рухнулі, як картачны домік.

1 сакавіка а 9.13 раніцы ў дзяжурную частку Цэнтральнага РАУС паступіў ананімны тэлефонны званок. Чалавек, які прадставіўся сябрам Беларускага Вызвольнага Войска, дзіцячым фальцэтам паведаміў, што ў паветра запушчаны шарык-камікадзэ, які нясе пагрозу нацыянальнай бясьпецы краіны. Усе падразьдзелы супрацьпаветранай абароны ў імгненьне былі прыведзеныя ў баявую гатовасьць. Самалёт «Сэсна» з Дазьняком на барту так і не ўзьляцеў з запаснога аэрадрому ўзброеных сілаў NATO ў Эўропе.

Як высьветлілася пазьней, ніякага шарыку на самой справе не было. Расьсьледаваньне інцыдэнту паказала, што «ананім» тэлефанаваў з офісу Чыфіра...●

**падрыхтаваў Філ Дуты**

## ВіншаваньнІ пА-...

### Маладафронтаўску

**Ён:** Мілая, віншую цябе са сьвятам 8 Сакавіка, днём паўстаньня слуцкіх ткачых супраць маскальскага прыгнёту. Жыве Беларусь! Я прынес табе падарунак – фотаздымак Зянона Станіслававіча з факсыміле ягонага аўтографу.

**Яна:** Дзякую, адраджэнец ты мой! Я сёньня адстаяла такую чаргу па сьмятану, напякла цэлую гару дранікаў. Давай, як нацыянальна сьвядомыя беларусы, зачытаем уголас апошні факс Пазьняка і паслухаем хіт Данчыка «Не шукай ты мяне». Поўнае Адраджэньне!

**Ён:** Не, любая, я зараз іду зьбіраць подпісы за вылучэньне Пазьняка кандыдатам у Прэзыдэнты. Дай мне, калі ласка, якіх грошай на перадвыбарчую кампанію. Павер, мілая, хутка мы пераможам маскалёў!

**Яна:** Што ты маніш! Ад цябе ж «Рускай» на валоку сьмярдзіць! Ведаю я тваіх «кандыдатаў» – зноў з Ганчаром у кавярні бухаць! Вось табе сотка, каб ты ўжо заліўся! Каб цябе АМАП павінціў!..

### Бэпээсэмаўску

**Ён:** Мілая, ад імя Прэзыдэнта віншую цябе са сьвятам 8 Сакавіка за тваё цярпеньне, мяккую дабрыню і працавітасьць. Усе на лыжы! Я прынес табе падарунак – лыжы, каб ты заняла другое месца на марафоне ў Раўбічах.

**Яна:** Дзякую, канкрэтны ты мой! Я сёньня адстаяла такую чаргу па спэцпаёк, набыла цукру, яек. Давай, як сапраўдныя маладыя патрыёты, паглядзім «Рэзананс» і паслухаем апошні хіт Зімоўскага «Аналіз». Поўная стабільнасьць!

**Ён:** Не, любая, я зараз еду на пасяўную, азімыя зьбіраць. Дай мне, калі ласка, якіх грошай на граблі. Мы абяцалі прэзыдэнту ўсім абкамам перавыканаць плян на 120%.

**Яна:** Што ты маніш! Ад цябе ж «Нагана» за кілямэтар валіць! Ведаю я твайго «прэзыдэнта» - зноў з Джэсікай Пірс на пасольства бухаць! Вось табе сотка, каб ты ўжо заліўся! Каб ты свой партбілет згубіў!..

### Баркашоўску

**Ён:** Мілая, я прыношу табе спачуваньні наконт 8 Сакавіка, дня сусьветнай жыдамасонскай змовы пад кіраўніцтвам Клары Цэткін супраць рускіх жанчын. Слава России! Я прынес табе падарунак – *Mein Kampf* у коміксах.

**Яна:** Дзякую, Зігфрыд ты мой! Я сёньня адстаяла такую чаргу па *Русский Порядок*, паставіла квасу. Давай, як ісьцінна рускія людзі, паводзім карагоды і паслухаем хіт Красных Звезд «Империя». Поўная лепата!

**Ён:** Не, любая, я зараз іду ў цырульню. Дай мне, калі ласка, якіх грошай на стрыжку «пад нібэлунга». Я хачу быць крутым арыйцам, каб мяне баяліся ўсе іншародцы.

**Яна:** Што ты маніш! Ад цябе ж «Белай Русьсю» на вярсту нясе! Ведаю я тваіх «іншародцаў» – зноў зь Севярынцам на Філармонію бухаць! Вось табе сотка, каб ты ўжо заліўся! Каб цябе хартысты абрэзалі!..

### Чырвонажондаўску

**Ён:** Мілая, віншую цябе са сьвятам 8 Сакавіка, днём барацьбы ўсіх фэміністак з сэксізмам. Ік... Я прынес табе падарунак – квартальную ільготную падпіску на газэту *Навінкі*!

**Яна:** Дзякую, левы ты мой! Я адстаяла такую чаргу на кропцы, набыла для нас «карабель» кашгарскай. Давай, як людзі, зараз пыхнем і заслухаем хіт гурта Hate To State «АМАП - SS». Поўны адлёт!

**Ён:** Не, любая, я зараз іду да каханкі. Дай мне, калі ласка, якіх грошай на прэзікі. Ты ж ведаеш, без сэксуальнай рэвалюцыі немагчымае сацыяльнае вызваленьне працоўных усяго сьвету.

**Яна:** Што ты маніш! Ад цябе ж «Сакрэтам» як ад Махно цягне! Ведаю я тваю «каханку» – зноў з ЦК на яўку бухаць! Вось табе сотка, каб ты ўжо заліўся! Каб цябе ў войска забралі!..



# «Сібірскі цырульнік»: «Тытанік» у задніцы

## Хутка і на экранах Беларусі

Сусьветная прэм'ера стужкі вядомага расейскага рэжысэра, галоўнага прэтэндэнта на прэзыдэнцкі пост у Расеі Мікіты Міхалкова «Сібірскі Цырульнік» прымусіла жыць увесь культурны сьвет у рэжыме шоку. Ёсьць ад чаго афігець: dolby system, 40 мільёнаў бюджэт, зоркі Галівуду...

Прыемна, што беларусы таксама не засталіся ў баку ад апошніх прарываў у кінэматографе, і некаторыя нават бачылі згаданую карціну. Мы маем на ўвазе спэцдэлегацыю, што была накіраваная ў Маскву на сьвяточную прэм'еру. У яе склад увайшлі лепшыя прадстаўнікі нашай краіны: перадавікі цяжкай прамысловасьці, даяркі-стаханаўкі, вэтэраны ўдарнай працы, прадстаўнікі працоўнай інтэлігенцыі...

Учора цягнік зь першымі беларускімі гледачамі «Сібірскага Цырульніка» прыбыў на станцыю Менск-Пасажырскі. Прама на плятформе чыгуначнага вакзалу беларускай сталіцы іх сустрэў наш спэцыяльны карэспандэнт, каб задаць толькі адно пытаньне: «Ну, як?»

**Цімох Дранчуковіч** *(пэнсіянэр)*: «Гэта ж суцэльны сэкс! Такога я нават пры панскай Польшчы ня бачыў. Дарэчы, карыстаючыся момантам, я б хацеў спытаць у Прэзыдэнта, калі нам, пэнсіянэрам, будуць прадаваць далбі-сыстэмы па ільготных коштах?»

**Марыя Прастакова** *(даярка)*: «Я тры разы глядзела прем'еру, наплакалася, як Эстэрсіта ў сэрыяле «Багатыя таксама плачуць», і вы ведаеце, нават закахалася ў галоўнага героя – Алега Меншыкава! Ён так падобны да Леонсіо! Калі прыеду да хаты, абавязкова павешу ягоны постэр у нашым кароўніку. Ён такі міленькі, і кажуць яшчэ не жанаты.»

**Сева Янчэўскі** *(патрыятычны моладзец)*: «Фільмец – супэр! Усё было ў кайф. Махалаўкі, спэцэфэкты там усялякія кампутарныя... Асабліва клас, калі яны там на Масьленіцы на разы выходзілі. Наш яго, быццам Шварц, яму ў рыла як дасьць. А той - у адключцы. Адно пагана – сэксу малавата будзе. І яшчэ не разумею, на фіг рэжысэр запрасіў на галоўную ролю гэную Джулію Орманд. Яна ж як дошка – і вока пакласьці няма на што. Трэба было браць Распуціну, або Алеграву!»

Афіша «Сібірскага цырульніка», зробленая і падпісаная самім Міхалковым

**Мікола Сташкевіч** *(падпалкоўнік цяжкой кавалерыі ў адстаўцы)*: «Гэта праблемная карціна аб стане нашай арміі, якая падымае пытаньне аб неўстаўных дачыненьнях у дарэвалюцыйных суворАўскіх установах. На маю думку, гэты фільм патрэбна дэманстраваць у кожнай школе, у кожным ПТВ. Трэба падымаць прыярытэт службы сярод моладзі.»

**Арыставан Казлоў** *(прадстаўнік інтэлігенцыі)*: «Я тры гады працую выкладчыкам тэорыі рынкавага сацыялізму і магу аналізаваць з пункту гледжаньня спэцыяліста. Я мяркую, што рэжысэр карціны задужа сымпатызуе лібэральным рэформам, інакш нашто ў фільме гэтак шмат кадэтаў. Дарэчы, некаторыя моманты фільму не адпавядаюць гістарычнай рэальнасьці: кадэты ёсьць, а лідэра партыі кадэтаў Мілюкова няма нават у эпізодах!»

**Лявонці Вольскі** *(вэтэран Дзяржаўнага джаз-хору Рэспубрікі Беларусь)*: «Мне вельмі спадабаўся саўндтрэк. Асабліва кампазыцыя Сямёна Акардэона «Боже, царя храни» напрыканцы карціны, калі параход «Сібірскі цырульнік», напароўшыся на парогі Енісею, ідзе на дно Байкалу. Выдатнейшае сола на гусьлях у танальнасьці рэ-мінор!»

Вось такія, у нечым нават супярэчлівыя думкі. Але відавочна, што фільм заслугоўвае ўвагі самага шырокага гледача. Хутка фільм зьявіцца ў пракаце на экране ДК апэратараў ручнога даеньня ●

**Вадзім Нявідзімаў**






# Фальклёр сучаснай Беларусі

Друкаваная сёньня частка матэрыялаў - прыказкі, прымаўкі, тосты і старажытныя абрады - гаворыць сама за сябе.

*Зьнешнія ініцыятывы беларускага кіраўніцтва вывесьці эўразіяцкія народы на новы ўзровень каапэрацыі і стварыць новы полюс сусьветнай стабільнасьці набылі падтрымку ня толькі ў высокіх палітычных салунаў. Сам Яго Вялікасьць Народ ацаніў і прызнаў актуальнасьць апошніх геапалітычных праджэктаў. Дэманстрацыяй гэтага сталі апошнія дасьледаваньні этнографаў, што правялі сэрыю экспэдыцыяў у самыя глухія куткі Беларусі.*

***Прыказкі й прымаўкі***

Мухамэда запавет пераробіць увесь сьвет.

Жыць – стратэгічнаму беларуска-кітайскаму партнэрству служыць.

Як сталі дэмакратаў саджаць – пачала лепш зямелька раджаць.

Зімоўскага «Рэзананс» – усіх нашых посьпехаў аванс.

Калі хочаш, каб быў ураджай – хутчэй ад НАТА ўдзірай.

З індусамі сябраваць – гора ня знаць.

Дзе маладыя патрыёты справу вядуць – там каларадзкія жукі мруць.

Дзе маладыя фронтаўцы справу вядуць – там каларадзкія жукі бульбу ядуць.

Красна хата пірагамі, а сьвет – геапалітычнымі палюсамі.

Не давай праходу НАТА – будзе і цябе нагарада.

Як кіргіска-беларускі саюз зьявіўся – НАТА ад страху аж зьмяніўся.

Хавіеру Салане ад усходнеэўрапейскіх варот – круты паварот.

Ад Дэн-сяо-пінаўскай навукі мацнеюць розум і рукі.

НАТА слабее – член мацнее.

НАТА слабее – жонка дабрэе.

Як сонейка зь неба ня збіць, гэтак і мытны саюз СНД не разваліць.

На Сораса не спадзявайся – усяго сваімі рукамі дабівайся.

Той прэзыдэнт харошы, што на цыгана пахожы.

Хоць Янчэўскі хіл і мал, а ураджай бальшы сабраў.

Па атамнай зброі шкадаваць – мір ва ўсім сьвеце паважаць.

Каб не прапусьціць сваю чаргу па яйкі й па хлеб, не глядзі НТВ ні зранку, ні ў абед.

***Народны абрад «Выкраданьне дэмакрата»***

Выразным узорам мадэрнізацыі народнага фальклёру можна лічыць рамантычны абрад «Выкраданьне дэмакрата», які сыходзіць сваімі каранямі ў сівую мінуўшчыну і зьяўляецца арганічнай часткай абраду «Калым».

Калі нявеста пагадзілася, і жаніх таксама, можна весьці дзяўчыну ў ЗАГС. Але спачатку трэба выкрасьці дэмакрата. Функцыянальнасьць абраду ў тым, каб малады чалавек наглядна засьведчыў нявесьце і яе бацькам сваю спрытнасьць і палітычную пазыцыю.

Абрад пачынаецца глыбокай раніцай, калі жаніх выпраўляецца ў горад на мітынг дэмакратычных сілаў. Там, пераапрануўшыся ў цывільнае, ён адсочвае самых адвязных апазыцыянэраў. Пасьля маніфэстацыі моладзец «вядзе» дэмакрата да першай цёмнай падваротні, дзе кідае яму мех на галаву і вяжа вяроўкамі.

Згодна няпісанаму рэглямэнтаванаму звычаю дэмакрат пачынае супраціўляцца: кусаецца, брыкаецца, адмаўляецца выходзіць з машыны, крычыць, што будзе скардзіцца пракурору і ў міжнародныя праваабарончыя інстанцыі. Як вы здагадаліся, галашэньні дэмакратаў – імправізаваны прыём, які адлюстроўвае глыбокую народную традыцыю. Пасьля «дэмакрата» перадаюць кунакам закаханага жаніха, а тыя – у бліжэйшы пастарунак МУС. Гэтак патрабуе гэты стары прыгожы абрад.

Пасьпяховае выкраданьне – прыкмета доўгага і шчасьлівага сумеснага жыцьця. ●

**Жыгімонт Фродзька**

